# З М Е С Т

# 1. Вынікі 2007 г. (аглядны матэрыял)

Вызначальным чынам на сітуацыю ў сферы СМІ ў 2007 г. працягвалі ўплываць адмовы дзяржаўных прадпрыемстваў-манапалістаў «Белпошта» і «Саюздрук» распаўсюджваць большасць незалежных газет. Сітуацыя застаецца нязменнай з канца 2005 г., калі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў большасць незалежных газет былі выключаныя з падпісных каталогаў «Белпошты» і іх перасталі прадаваць праз сетку шапікаў «Саюздруку».

У канцы 2007 г. да пацярпелых беларускіх выданняў далучыліся і некаторыя расійскія («Коммерсант», «Московский Комсомолец», «Новая газета», «Независимая газета»), якія таксама не ўключылі ў падпісны каталог на 2008 г. Як і ў выпадку з беларускімі выданнямі, «Белпошта» растлумачыла гэта «эканамічнай немэтазгоднасцю». Зыскі рэдакцый выключаных з падпіскі газет і іх чытачоў да «Белпошты» суды разглядаць адмовіліся. Пры гэтым падпіска на газеты была абвешчаная відам дзейнасці, які ліцэнзуецца, а ліцэнзіі выдае Міністэрства сувязі і інфарматызацыі, у сістэму якога і ўваходзіць «Белпошта».

У якасці прыладаў для ціску на СМІ выкарыстоўваліся і зыскі высокапастаўленых службоўцаў. 1 кастрычніка суд Ленінскага раёна г. Мінска спагнаў з газеты «Народная воля» і журналісткі Марыны Коктыш на карысць кіраўніка Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Алега Праляскоўскага 27 млн. руб. (больш за 12 тыс. долараў). Яшчэ большую суму суд спагнаў па зыску генерала і сенатара Мікалая Чаргінца: 51 млн. руб. (каля 24 тыс. долараў) з газеты «Новы Час» і Аляксандра Тамковіча. Прычым першапачаткова М. Чаргінец патрабаваў 600 млн. руб., але пасля знізіў патрабаваную суму. Пазоў Чаргінца выклікаў вялікі рэзананс, як у Беларусі, так і за яе межамі (што, магчыма, і прывяло да зніжэння сумы зыску).

Яшчэ адной характарыстыкай 2007 г. стала ўзмацненне актыўнасці з боку сілавых структур: міліцыі, пракуратуры, Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ). На працягу года супрацоўнікі міліцыі затрымлівалі журналістаў і распаўсюднікаў незалежнай прэсы ва ўсіх рэгіёнах краіны. Асаблівы рэзананс выклікалі інцыдэнты ў Баранавічах (Брэсцкая вобл.), калі былі затрыманыя акрэдытаваныя карэспандэнты замежных СМІ, і на беларуска-ўкраінскай мяжы, дзе былі затрыманыя журналісты, якія вярталіся з рок-фэсту «Права быць свабодным». Супрацоўнікі КДБ «адзначыліся» шматлікімі выклікамі журналістаў у органы дзяржбяспекі, ціскам на іх і пераследам карэспандэнтаў і аўтараў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ. Асабліва актыўнымі былі ўпраўленні КДБ у Гомельскай і Гродзенскай абласцях.

У цэнтры ўвагі ў 2007 г. у Беларусі заставаўся Інтэрнет. У лютым урад выдаў пастанову аб рэгуляванні інтэрнет-кафэ і клубаў. Вясной былі блакаваныя сайты, якія вялі онлайн-рэпартажы з акцый апазіцыі. Летам кіраўнік дзяржавы заявіў, што анархію ў Інтэрнеце трэба спыніць: «Нельга дапускаць, каб гэтае тэхнічнае дасягненнеператварылася ў інфармацыйную памыйніцу», — а Міністэрства інфармацыі паведаміла аб стварэнні міжведамаснай працоўнай групы па вывучэнні міжнароднага досведу ў гэтай сферы. Прычым, там адразу ж узгадалі аб кітайскім досведзе рэгулявання Інтэрнету. У жніўні на два гады пазбаўлення волі быў асуджаны за публікацыю на адным з інтэрнет-рэсурсаў палітык і публіцыст Андрэй Клімаў, які знаходзіўся пад вартай з 3 красавіка 2007 г. У снежні ніжняя палата беларускага парламента прыняла ў першым чытанні закон «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і

абароне інфармацыі», які, на думку экспертаў, накіраваны на абмежаванне распаўсюду інфармацыі (у тым ліку і ў Глабальным сеціве).

Адначасова ўладамі былі распачатыя спробы ўзяць пад кантроль усталяванне грамадзянамі лакальных камп’ютэрных сетак і спадарожнікавых тэлевізійных антэн. Спробы дэмантаваць «самавольна» ўсталяваныя «талеркі» прадпрымаліся ў Пінску, Мінску, Гродне і іншых беларускіх гарадах. Мяркуецца, што гэта звязана з пачаткам вяшчання незалежнага спадарожнікавага тэлеканала «TV Беларусь» (гандлёвая марка «Белсат»). Тэставае вяшчанне гэтага тэлеканала, створанага на тэрыторыі Польшчы з удзелам беларускіх журналістаў, пачалося 10 снежня 2007 г. На сайце «TV Беларусь» адзначаецца, што місіяй тэлеканала з’яўляецца распаўсюд «дакладнай і незалежнай інфармацыі аб падзеях у Беларусі, Еўропе і свеце».

Найбольш рэзананснай падзеяй 2007 г. (мяркуючы па водгуках у прэсе і Інтэрнеце) стала сустрэча забароненых рок-музыкаў з начальнікам Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Алегам Праляскоўскім. З сярэдзіны 2004 г., калі вядомыя беларускія рок-музыкі выступілі на акцыі апазіцыі, яны патрапілі ў так званыя «чорныя спісы». Большасць беларускіх тэле- і радыёстанцый адмовіліся пракручваць іх песні ў эфіры, спасылаючыся на тайныя ўказанні. Забараняліся і канцэрты музыкаў. На сустрэчы з лідэрамі забароненых рок-гуртоў А. Праляскоўскі даў зразумець, што забароны гэтыя будуць знятыя, калі музыкі не будуць выступаць на апазіцыйных акцыях.

У канцы 2007 г. быў зацверджаны бюджэт Рэспублікі Беларусь на 2008 г. На фінансаванне дзяржаўных і праўладных СМІ запланавана каля 74 млн. долараў. У 2007 г. на гэтыя мэты выдаткоўвалася каля 64 млн. долараў, у 2006 г. — больш за 60 млн. долараў, у 2005 г. — каля 40 млн., у 2004 г. — меней за 30 млн. долараў ЗША па курсе Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Маніторынг сітуацыі ў сферы СМІ, які ажыццяўляе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», сведчыць, што ў 2007 г.:

- працягвалася эканамічная і прававая дыскрымінацыя незалежных СМІ;
- парушэнні свабоды сродкаў масавай інфармацыі прадпрымаліся найперш дзяржаўнымі органамі і іх супрацоўнікамі;
- гэтыя парушэнні мелі за мэту абмежаваць цыркуляванне ў грамадстве нецэнзураванай інфармацыі;
- дасягалася гэтая мэта, у першую чаргу, эканамічнымі сродкамі, закліканымі на фоне адкрытай фінансавай і адміністрацыйнай падтрымкі падкантрольных уладам СМІ пазбавіць незалежную прэсу крыніц прыбытку і магчымасці даходзіць да чытача;
- у сваю чаргу, гэта стымулявала незалежную журналістыку шукаць іншыя шляхі да сваёй аўдыторыі (стварэнне альтэрнатыўных шляхоў распаўсюду газетнай прадукцыі, інтэрнэт-версій газет, развіццё онлайн-выданняў, якія не маюць папяровай версіі, замежнае вяшчанне, маланакладная незарэгістраваная прэса, мультымедыяпраекты і інш.).

# 2. Статыстычныя звесткі

## 2.1. Друкаваныя СМІ

На 1 студзеня 2008 г. у Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 1266 перыядычных друкаваных СМІ. За год іх колькасць крыху павялічылася (на 42).

Пачынаючы з 1996 г. анулявана 1214 пасведчанняў аб рэгістрацыі СМІ, 487 выданняў перарэгістраваныя. Паводле слоў міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча, «гэта натуральны працэс рэгістрацыі, пазбаўлення ліцэнзіі і спынення існавання».

Па стане на 1 лютага 2008 г. у Беларусі зарэгістравана 707 газет, 523 часопісы, 35 бюлетэняў, 3 каталогі, 1 альманах (усяго — 1269 перыядычных друкаваных выданняў) і 9 інфармацыйных агенцтваў. 394 выданні — дзяржаўныя (у тым ліку 220 газет і 160 часопісаў). Недзяржаўных перыядычных друкаваных СМІ — 875 (у тым ліку 487 газет і 363 часопісы). Аднак пераважная большасць недзяржаўных СМІ з’яўляюцца выключна забаўляльнымі ці рэкламнымі выданнямі альбо выходзяць нерэгулярна. Недзяржаўных СМІ грамадска-палітычнай скіраванасці, паводле падлікаў ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», у краіне каля 30. Палова з іх выключаная з дзяржаўных сістэм распаўсюду па падпісцы і праз шапікі.

Толькі 79 з зарэгістраваных друкаваных выданняў выходзяць на беларускай мове. Яшчэ 278 выкарыстоўваюць як беларускую, так і рускую мовы. Большасць выданняў — 536 — выходзіць на рускай мове, а яшчэ 365 — на рускай і іншых. Колькасць беларускіх СМІ на іншых мовах (польскай, украінскай, англійскай) застаецца вельмі невялікай — 8.

Найбольшым накладам у Беларусі выходзіць газета «Советская Белоруссия», якую выдае Адміністрацыя Прэзідэнта. Наклад гэтага выдання крыху паменшыўся і да пачатку 2008 г. склаў 418 тыс. асобнікаў. Наклады іншых нацыянальных дзяржаўных газет значна ніжэйшыя — каля 30 тыс. асобнікаў («Рэспубліка» — каля 50 тыс. асобнікаў). Агульны разавы наклад дзяржаўнага мясцовага друку (136 абласных, гарадскіх, раённых і аб’яднаных газет) у першым квартале 2008 г. склаў 882,7 тыс. асобнікаў. Найбольшы наклад мае дзяржаўная прэса ў Віцебскай вобласці (181,1 тыс. асобнікаў), найменшы — у Гродзенскай (108,5 тыс.). Незалежных грамадска-палітычных выданняў у Віцебскай і Гродзенскай абласцях засталося толькі па адным (пасля прыпынення выхаду вясной 2007 г. газеты «Витебский курьер М»).

Наклады недзяржаўных выданняў значна ніжэйшыя (хоць у некаторых рэгіёнах незалежныя СМІ маюць большы наклад, чым мясцовыя дзяржаўныя выданні). Агульны наклад усёй недзяржаўнай грамадска-палітычнай прэсы меншы за наклад адной «Советской Белоруссии» (прытым што большасць незалежных газет — штотыднёвікі, а «Советская Белоруссия» выходзіць 5 разоў на тыдзень). Канкураваць з ёй у стане толькі «Комсомольская правда» в Белоруссии», штодзённы наклад якой складае каля 40 тыс. асобнікаў, а выпуск у чацвер выходзіць накладам у 350 тыс. асобнікаў. Аднак «Комсомольская правда» в Белоруссии» з’яўляецца трансмежным СМІ, заснаваным расійскім капіталам, і асноўны аб’ём газеты складаюць забаўляльныя матэрыялы.

Дысбаланс накладаў дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсы выкліканы прававой і эканамічнай дыскрымінацыяй недзяржаўных СМІ. У той жа час дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі атрымоўваюць не толькі адміністрацыйную падтрымку і рознага кшталту прэферэнцыі, але і бюджэтнае фінансаванне, памеры якога з кожным годам узрастаюць. У рэспубліканскім бюджэце 2007 г. на гэтыя мэты было выдаткавана каля 64 млн. долараў, а на 2008 г. запланавана каля 74 млн. долараў.

Да таго ж недзяржаўныя СМІ цвёрда кантралююцца як мясцовымі выканаўчымі органамі, так і Міністэрствам інфармацыі і пракуратурай.

На працягу года Міністэрства інфармацыі вынесла 86 пісьмовых папярэджанняў 76 выданням за парушэнне заканадаўства аб СМІ. Дзейнасць трох выданняў — «Неделя в Молодечно», «Столичные квартиры» і «Fitness and life» — прыпынялася тэрмінам на 3 месяцы. Нагодай для прыпынення дзейнасці выданняў стала парушэнне імі арт. 11 закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» (парушэнне перыядычнасці выхаду, мовы, адраса, а таксама размяшчэнне рэкламы ў аб’ёмах, большых за дазволеныя).

## 2.2. Тэлерадыёвяшчанне

Сітуацыя ў тэлевізійным і радыёвяшчальным сектары істотна адрозніваецца ад сітуацыі з друкаванымі СМІ.

На 1 снежня 2007 г. у Беларусі зарэгістраваныя 216 праграм тэлерадыёвяшчання, з якіх 156 — радыёвяшчальныя, а 60 — тэлевізійныя. Большасць зарэгістраваных тэлерадыёвяшчальных СМІ (183) — дзяржаўнай формы ўласнасці, і толькі 53 — недзяржаўнай. З пачатку года зарэгістраваныя 6 тэлепраграм і 1 радыёпраграма (усе — дзяржаўныя). Колькасць і структура зарэгістраваных радыё- і тэлевізійных СМІ доўгі час амаль не змяняюцца. Усе тэлерадыёкампаніі дзейнічаюць на аснове ліцэнзіі, якая выдаецца Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, і яны падкантрольныя гэтаму дзяржаўнаму органу.

На 1 лістапада 2007 г. у Беларусі дзейнічалі 129 аператараў кабельнага тэлебачання (з дзяржаўнай формай уласнасці — 23, з недзяржаўнай — 106), якія маюць адпаведныя ліцэнзіі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь. Найбольшая іх колькасць — у Гродзенскай вобласці (28), найменшая — у Гомельскай і Мінску (па 11). У сацыяльны пакет, які абавязаныя ўключаць у агульны пакет тэлепраграм аператары кабельнага тэлебачання, уваходзяць беларускія праграмы «Першы канал», «Лад», «Агульнанацыянальнае тэлебачанне», «Сталічнае тэлебачанне», а таксама «НТВ-Беларусь» і «Россия-Беларусь».

У FM-дыяпазоне ў Беларусі вяшчае 31 радыёстанцыя, з іх 15 у г. Мінску.

Выбітнае становішча на рынку тэлерадыёвяшчання займае Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, якая сумяшчае функцыі вяшчальнай арганізацыі і органа дзяржаўнага кіравання. У склад НДТРК уваходзяць «Першы канал», тэлеканал «Лад», спадарожнікавы канал «Беларусь-ТВ», Першы Нацыянальны канал Беларускага радыё, радыёканал «Культура», радыёстанцыя «Беларусь», якая вяшчае на замежжа, радыёстанцыя «Сталіца», радыёстанцыя «Радиус-FM» і пяць абласных тэлерадыёкампаній. Прымаць Першы тэлеканал могуць 99,49% насельніцтва Беларусі. 97,35% насельніцтва могуць прымаць дзве тэлепраграмы, 80,58% — тры, 58,96% — чатыры і больш праграм.

## 2.3. Інтэрнет

Каля 30% дарослага насельніцтва Беларусі карыстаюцца Інтэрнетам. Гэта вынікае са шматлікіх сацыялагічных апытанняў.

Паводле нацыянальнага апытання, праведзенага 5–15 мая 2007 г. «Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў» (Літва), 5,2% апытаных карыстаюцца Інтэрнетам штодня, 9,9% — некалькі разоў на тыдзень, 10,9% — раз на месяц , 4% — некалькі разоў на год. 58,3% апытаных Інтэрнетам не карыстаюцца, а 10,5% не ведаюць, што гэта такое. 24,6% беларускіх карыстальнікаў Інтэрнету наведваюць расійскія сайты, 20,2% — беларускія, 9,9% — еўрапейскія, а 1,3% — амерыканскія сайты.

Значэнне Інтэрнету як крыніцы непадцэнзурнай інфармацыі для Беларусі пацвердзілі дадзеныя, агучаныя на канферэнцыі «Дзелавы Інтэрнет», якая адбылася ў Мінску 4–5 кастрычніка 2007 г. Паводле дадзеных даследаванняў, 21% дарослага насельніцтва Беларусі назвалі Інтэрнет адной з найбольш прывабных крыніц інфармацыі. І, хоць большасць беларускіх карыстальнікаў аддае перавагу замежным інтэрнет-рэсурсам, расце і колькасць беларускіх сайтаў. У 2007 г. іх колькасць вырасла на 5 тыс. і дасягнула 25 тыс. Колькасць парталаў павялічылася да 234 (летась — 82), сайтаў друкаваных СМІ — 260 (у 2006 г. было 239). Сутачная аўдыторыя карыстальнікаў Інтэрнету вырасла за 2007 г. на 29% і складае 180 тыс. чалавек. Зрэшты, значная частка гэтай аўдыторыі, паводле дадзеных партала «Акавіта», шукае ў Інтэрнеце працу, рэфераты, мабільныя тэлефоны.

У лістападзе — снежні 2007 г. з’явіліся паведамленні аб пачатку вяшчання двух інтэрнет-радыё.

20 лістапада пачалося тэставае вяшчанне інтэрнет-радыёстанцыі «NETRadio», якая, як сцвярджаюць яе стваральнікі, стане першым прафесійным інтэрнет-радыё ў Беларусі. 6 снежня пачало вяшчанне інтэрнет-радыё партала TUT.BY (брэнд — «Радыё TUT»). Апроч музычнага вяшчання канал плануе кожныя паўгадзіны перадаваць online навіны. У сувязі з недастатковым распаўсюдам у Беларусі тэхналогій шырокапалоснага доступу ў сеціва арганізатары «Радыё TUT» называюць яго адкрыццё эксперыментальным.

# 3. Змены ў заканадаўстве

4 студзеня прыняты закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму». У адпаведнасці з арт. 14 закона забараняюцца выданне і распаўсюд, у тым ліку праз сродкі масавай інфармацыі, экстрэмісцкіх матэрыялаў. Інфармацыйная прадукцыя, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці альбо прапагандуе такую дзейнасць, канфіскуецца і знішчаецца на падставе рашэння суда аб прызнанні яе экстрэмісцкімі матэрыяламі.

10 лютага выдадзена Палажэнне аб парадку працы камп'ютэрных клубаў і інтэрнет-кафэ. Яно зацверджана пастановай Савета Міністраў № 175. Палажэнне, у прыватнасці, абавязвае кіраўнікоў інтэрнет-кафэ і камп'ютэрных клубаў весці электронны журнал даменных імёнаў сайтаў, да якіх атрымоўвалі доступ карыстальнікі, а таксама падаваць гэтыя звесткі органам дзяржбяспекі, праваахоўным органам і органам дзяржкантролю.

19 лютага Савет Міністраў прыняў пастанову № 205 «Аб фінансаванні ў 2007 годзе перыядычных выданняў». Пастановай зацверджаны Пералік перыядычных выданняў, рэдакцыям якіх у 2007 г. выдзяляюцца субсідыі з рэспубліканскага бюджэту. У пераліку — 29 выданняў. Парадак выдзялення субсідый даручана распрацаваць Міністэрству інфармацыі па ўзгадненні з Міністэрствам фінансаў.

1 сакавіка ўступілі ў сілу новыя Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях. Санкцыі за парушэнне заканадаўства аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі рэзка павялічыліся. Памер санкцый па гэтым артыкуле вагаецца ад 20 да 500 базавых велічынь (ад 325 да больш за 8 тыс. долараў). Права складаць пратаколы па дадзеным артыкуле прадстаўлена Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь (арт. 3.30 ПВКаАП).

10 верасня Міністэрства інфармацыі прыняло пастанову № 12 «Аб наданні паўнамоцтваў службовым асобам Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на складанне пратаколаў аб адміністратыўных правапарушэннях».

10 мая прыняты новы закон «Аб рэкламе».

12 лістапада Савет Міністраў прыняў пастанову № 1497 «Аб рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб рэкламе». Гэтай пастановай зацверджаныя, у прыватнасці, Палажэнне аб парадку размяшчэння (распаўсюджвання) на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэкламы прадукцыі, тавараў, прац, паслуг, якія выпрабляюць на гэтай тэрыторыі; Палажэнне аб парадку размяшчэння (распаўсюджвання) на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэкламы алкагольных напояў і тытунёвых вырабаў у сродках масавай інфармацыі.

7 чэрвеня Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт зацвердзіў Палажэнне аб працы грамадскіх распаўсюднікаў друкаваных выданняў (рашэнне № 912). У Палажэнні вызначаныя правілы і ўмовы працы грамадскіх распаўсюднікаў СМІ. Дазвол рэдакцыям газет, якія выдаюцца ў г. Брэсце, на рэалізацыю іх друкаваных выданняў праз грамадскіх распаўсюднікаў выдае Брэсцкі гарвыканкам.

27 чэрвеня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу прыняла ў першым чытанні папраўкі да закона «Аб дзяржаўнай службе». У адпаведнасці з законапраектам мэтазгоднасць публікацый і выступаў дзяржаўных службоўцаў у СМІ будуць

вызначаць кіраўнікі дзяржаўных органаў. Для таго каб выступіць у СМІ, дзяржслужачыя павінны будуць атрымаць на гэта дазвол свайго непасрэднага кіраўніка.

17 верасня Міністэрства сувязі і інфарматызацыі зацвердзіла новыя «Правілы прыёму падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі і іх дастаўкі». Апроч падпіскі на друкаваныя СМІ, якая ажыццяўляецца аператарам паштовай сувязі, Правілы дазваляюць рэдакцыйную падпіску, што ажыццяўляецца непасрэдна рэдакцыяй (выдаўцом) гэтага СМІ.

12 снежня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь прыняла ў першым чытанні законапраект «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі». Яшчэ ў пачатку працы над законапраектам эксперты адзначалі, што ён накіраваны на абмежаванне свабоды інфармацыі і ўтрымлівае вялікую колькасць норм-спасылак, што стварае перадумовы для рэгулявання інфармацыйнай сферы падзаконнымі актамі. Шматлікія заўвагі міжнародных экспертаў і ГА БАЖ распрацоўшчыкамі законапраекта пасля былі ўлічаныя (напрыклад, замацавана, што закон не пашыраецца на адносіны ў сферы СМІ, і выключаныя згадкі аб Інтэрнэце). Тым не менш праект закона захаваў абмежавальны характар.

26 снежня прыняты закон «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь». У адпаведнасці з ім на фінансаванне СМІ выдаткавана 158 981 198 тыс. руб. (каля 74 млн. долараў), з іх на фінансаванне тэлебачання і радыё — 121 927 423 тыс. руб. (больш за 56 млн. долараў). Яшчэ 15 899 505 тыс. руб. (больш за 7 млн. долараў) прадугледжана на падтрымку перыядычнага друку і выдавецтваў, а 21 154 270 тыс. руб. (каля 10 млн. долараў) — на іншыя выдаткі сродкаў масавай інфармацыі. Датуюцца пераважна дзяржаўныя СМІ, а таксама СМІ, абраныя Міністэрствам інфармацыі на непразрыстай аснове.

# 4. Хроніка канфліктаў у сферы СМІ

## 4.1. Студзень — сакавік

### 4.1.1. Развіццё сітуацыі ў сферы СМІ

Асноўнай праблемай, якую незалежныя СМІ былі вымушаныя вырашаць на працягу першых трох месяцаў 2007 г., заставалася праблема распаўсюду. Больш за палову з 30 недзяржаўных грамадска-палітычных СМІ сутыкнуліся з адмовамі дзяржаўных прадпрыемстваў-манапалістаў «Белпошта» і «Саюздрук» распаўсюджваць іх па падпісцы і ў розніцу (гл. «Асноўная праблема»).

У цэнтры ўвагі ў гэтыя месяцы заставалася сітуацыя з газетай «Витебский курьер М». Апроч праблем з распаўсюдам (газета выключаная з падпіснога каталога «Белпошты» і не прадаецца ў шапіках «Саюздруку»), гэтае выданне сутыкнулася з праблемамі ў размяшчэнні рэдакцыі ў Віцебску і ў друкаванні газеты.

10 студзеня Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці задаволіў зыск прадпрыемства «Элсан», у якога рэдакцыя арандавала памяшканне, аб прызнанні дамовы арэнды несапраўднай (да гэтага на працягу 2006 г. рэдакцыя двойчы ўжо сутыкалася з неабходнасцю змяняць офіс па патрабаванні арэндадаўцы). Праз тыдзень, 17 студзеня, Міністэрства інфармацыі лістом за подпісам намесніка міністра Л. Ананіч запатрабавала ад рэдакцыі паведаміць аб новым юрыдычным адрасе на працягу двух месяцаў пад пагрозай таго, што ў адваротным выпадку выхад газеты будзе прыпынены. 12 лютага апеляцыйная інстанцыя Гаспадарчага суда Віцебскай вобласці адхіліла скаргу рэдакцыі на судовае рашэнне, пасля чаго тое ўступіла ў законную сілу. Рэдакцыя была абавязаная вызваліць занятыя памяшканні на працягу 10 дзён, аднак падала касацыйную скаргу ў Вышэйшы гаспадарчы суд, які прыпыніў выкананне рашэння. 26 сакавіка Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь задаволіў касацыйную скаргу рэдакцыі газеты «Витебский курьер М», адмяніў пастановы ніжэйшых інстанцый і накіраваў справу на новы разгляд.

Аднак за 4 дні да гэтага рэдакцыя сутыкнулася з іншай сур'ёзнай праблемай. 22 сакавіка дзяржаўнае прадпрыемства «Віцебская абласная друкарня» адмовілася працягнуць дамову на друк «Витебского курьера М». Аб гэтым стала вядома, калі газета была ўжо звярстаная і рыхтавалася да адпраўкі ў друкарню. Рэдакцыя перавярстала газету з фармату А-2 у фармат А-4 і раздрукавала яе на прынтэры. У далейшым меркавалася друкаваць газету ў Смаленску (Расія), дзе зараз вымушаныя друкавацца такія беларускія газеты, як «Товарищ» і «Народная воля». Аднак у красавіку рэдакцыі ўсё ж удалося скласці дамову з Віцебскай абласной друкарняй тэрмінам да траўня 2007 г.

У Гомелі мясцовыя журналісты сутыкнуліся з праблемамі іншага характару. У гэтым абласным цэнтры незалежных выданняў няма, і журналісты працуюць на сталічныя альбо замежныя СМІ. 5 лютага журналістка Юлія Сальнікава атрымала афіцыйнае папярэджанне ад пракуратуры Гомельскай вобласці аб недапушчальнасці працы ў якасці замежнага карэспандэнта без акрэдытацыі. Журналістку папярэдзілі таксама аб адказнасці за падачу неаб'ектыўных звестак, якія накіроўваюцца ў замежныя СМІ. 17 сакавіка пракуратура Гомельскай вобласці склала пратакол аб

адміністратыўным правапарушэнні ў дачыненні журналіста Анатоля Гатоўчыца, які працуе на беларускае інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН». Падставай для гэтага паслужыла з'яўленне некалькіх матэрыялаў журналіста на сайце беларускай службы «Радыё Свабода». Справу супраць журналіста ініцыявала ўпраўленне КДБ Гомельскай вобласці, якое ўзяло тлумачэнні ў службоўцаў, якія давалі каментары А. Гатоўчыцу (напрыклад: «Ці давалі вы згоду на інтэрв'ю амерыканскай радыёстанцыі «Свабода»), і накіравала іх у пракуратуру. 26 сакавіка суд Цэнтральнага раёна г. Гомеля аштрафаваў журналіста на 2 базавыя велічыні (каля 30 долараў ЗША). Журналіст пастанову суда абскардзіў. У скарзе ён спаслаўся, у прыватнасці, на арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, у адпаведнасці з якім кожны чалавек мае права атрымоўваць і распаўсюджваць рознага кшталту інфармацыю і ідэі незалежна ад дзяржаўных межаў.

Супрацоўнікі пракуратуры выносілі папярэджанні ў адрас журналістаў і ў іншых рэгіёнах Беларусі. Так, 9 студзеня намеснік галоўнага рэдактара недзяржаўнай газеты «Ганцавіцкі час» (Брэсцкая вобл.) Пётр Гузаеўскі атрымаў папярэджанне ад пракуратуры Ганцавіцкага раёна. Падставай для гэтага стаў яго артыкул «Выбары ў раённы Савет будуць без выбару», у якім ён аналізаваў ход выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. У папярэджанні гаварылася, што ў выпадку паўторнага парушэння дзейнасць газеты можа быць прыпыненая. Журналіст абскардзіў папярэджанне ў пракуратуру Брэсцкай вобласці, аднак тая пакінула папярэджанне ў сіле. Больш за тое, 26 лютага папярэджанне ад пракуратуры раёна атрымаў галоўны рэдактар газеты Аляксей Белы. У папярэджанні зноў гаварылася, што ў выпадку парушэння ў далейшым заканадаўства аб СМІ можа быць пастаўлена пытанне аб прыпыненні выхаду газеты. Падставай для вынясення папярэджання сталі крытычныя артыкулы П. Гузаеўскага аб ходзе і выніках выбараў у Ганцавіцкім раёне.

Папярэджанні ў адрас недзяржаўных газет выносіла і Міністэрства інфармацыі. 17 студзеня папярэджанне атрымала недзяржаўная спартовая газета «Прессбол» на той падставе, што галоўным рэдактарам газеты з'яўляецца не дырэктар унітарнага прадпрыемства «Прессбол» Ю. Арлоў, а іншая асоба — У. Беражкоў (які з'яўляецца галоўным рэдактарам выдання ўжо некалькі гадоў).

12 лютага Міністэрства інфармацыі вынесла два папярэджанні рэдакцыі і заснавальніку літаратурна-мастацкага і навукова-папулярнага часопіса «ARCHE. Пачатак». Парушэннем заканадаўства міністэрства палічыла той факт, што рэдакцыя ў снежні 2006 г. выпусціла адразу 3 нумары часопіса пасля трохмесячнага прыпынення дзейнасці часопіса — за кастрычнік, лістапад і снежань. Выхад часопіса быў прыпынены Міністэрствам інфармацыі 19 верасня 2006 г. на той падставе, што ў часопісе, зарэгістраваным як літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны, былі апублікаваныя грамадска-палітычныя артыкулы.

Два гады таму, 10 сакавіка 2005 г., прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Міклаш Харашці ў дакладзе аб выніках свайго візіту ў Беларусь адзначыў, што Міністэрству інфармацыі нададзеныя шырокія паўнамоцтвы па ўжыванні санкцый у дачыненні СМІ і яно празмерна выкарыстоўвае гэтыя паўнамоцтвы. Рэкамендацыі Прадстаўніка АБСЕ спыніць адміністрацыйнае ўмяшанне міністэрства ў дзейнасць СМІ пачутыя не былі. Наадварот, з 1 сакавіка 2007 г. (з уступленнем у сілу новага Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) паўнамоцтвы Міністэрства інфармацыі ў дачыненні СМІ сталі яшчэ больш шырокімі. Яно атрымала яшчэ адзін рычаг уздзеяння на СМІ: права складаць пратаколы за парушэнне заканадаўства аб СМІ. Прычым санкцыі па артыкуле «Парушэнне заканадаўства аб друку і іншых сродках масавай

інфармацыі» (арт. 22.9 КаАП) вельмі вялікія: па ч. 3 гэтага артыкула штраф для юрыдычнай асобы складае ад 1,5 тыс. да 7 тыс. долараў.

За гэты перыяд быў выдадзены яшчэ адзін нарматыўны акт, датычны свабоды інфармацыі, — Палажэнне аб парадку працы камп'ютэрных клубаў і інтэрнет-кафэ. Яно зацверджана 10 лютага пастановай Савета Міністраў № 175. Палажэнне, у прыватнасці, абавязвае кіраўнікоў інтэрнет-кафэ і камп'ютэрных клубаў весці электронны журнал даменных імёнаў сайтаў, да якіх атрымоўвалі доступ карыстальнікі, а таксама падаваць гэтыя звесткі органам дзяржбяспекі, праваахоўным органам і органам дзяржкантролю.

Спроба дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю інтэрнет-прасторы мела месца і на тэхналагічным узроўні. 25 сакавіка 2007 г. падчас акцыі беларускай апазіцыі «Дзень волі» былі заблакаваныя практычна ўсе самыя папулярныя беларускія інтэрнет-рэсурсы, якія маглі паведамляць пра гэтую акцыю.

## 4.1.2. Асноўная праблема

Самай сур'ёзнай праблемай незалежных СМІ з канца 2005 г. працягвае заставацца праблема распаўсюду.

З мая 2004 г. распаўсюд газет па падпісцы ў Беларусі абвешчаны відам дзейнасці, які патрабуе ліцэнзіі. Ліцэнзіі выдае Міністэрства сувязі і інфарматызацыі, у сістэму якога ўваходзіць «Белпошта», якая, у сваю чаргу, дамінуе на рынку падпіскі (г. зн. міністэрства вырашае пытанне аб допуску на рынак падпіскі патэнцыйных канкурэнтаў «уласнага» прадпрыемства). Большасць недзяржаўных суб'ектаў гаспадарання, якія звярнуліся за ліцэнзіямі, атрымалі адмову.

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. «Белпошта» выключыла з падпіснога каталога 16 незалежных выданняў. Яна спаслалася на тое, што, «паколькі абавязкі па ўключэнні друкаванага выдання ў каталог не прадугледжаныя заканадаўствам, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталога з мэтай наступнага іх распаўсюду праз падпіску з'яўляецца правам РУП «Белпошта». Зыскі рэдакцый і чытачоў газет, выкінутых з падпісных каталогаў, суды адмовіліся разглядаць.

Пасля завяршэння выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь гэтая праблема не вырашылася. Пры складанні падпіснога каталога на 2007 г. паўтарылася сітуацыя канца 2005 г.: «Белпошта» не ўключыла ў каталог 13 недзяржаўных выданняў.

Сітуацыя з рознічным продажам газет аналагічная. Дзяржаўныя прадпрыемствы сістэмы «Саюздруку», якія дамінуюць у гэтым сегменце рынку распаўсюду прэсы, адначасова з «Белпоштай» адмовіліся распаўсюджваць шмат якія незалежныя выданні. На пачатку 2006 г. у шапіках «Саюздруку» не прадаваліся 19 газет. Да пачатку 2007 г. іх колькасць паменшылася (зараз «Саюздрук» не рэалізуе 16 недзяржаўных грамадска-палітычных газет). Некаторае памяншэнне колькасці газет, якія не распаўсюджваюцца праз сістэмы дзяржаўных прадпрыемстваў-манапалістаў, тлумачыцца не паляпшэннем сітуацыі, а тым, што некалькі друкаваных выданняў спынілі выхад: альбо былі зачыненыя ўладамі, як «Згода» і «Тэлескоп», альбо не выходзяць па ініцыятыве заснавальніка, як «Салідарнасць» і «БДГ. Деловая газета», якія не маглі ні друкавацца, ні распаўсюджвацца ў Беларусі і перайшлі ў Інтэрнет.

Сітуацыя на працягу года пагаршалася. 17 студзеня Нясвіжскае раённае аддзяленне «Мінаблсаюздруку» папярэдзіла недзяржаўную газету «Нясвіжскі час» аб тым, што з 20 сакавіка скасоўвае дамову на распаўсюд газеты. Пазней рэдакцыя здолела дамагчыся працягу дамовы. 1 лютага аддзяленне «Магілёўсаюздруку» адмовілася рэалізоўваць недзяржаўную газету «Бобруйский курьер», спаслаўшыся на невысокую рэалізацыю і вялікі адсотак спісання. Між тым, рэалізацыя выдання ў апошнія месяцы вырасла, і адсотак спісання быў невялікі.

Складанасці з распаўсюдам незалежных выданняў не абмяжоўваліся адмовамі дзяржаўных арганізацый прадаваць іх у шапіках або па падпісцы. Паўсюдна мясцовыя ўлады настойліва раілі прадпрымальнікам адмовіцца ад гандлю мясцовымі недзяржаўнымі выданнямі, пагражаючы ў адваротным выпадку негатыўнымі наступствамі, а міліцыя затрымлівала распаўсюднікаў газет (як незарэгістраваных, так і зарэгістраваных). Так, 12 сакавіка рэдакцыя газеты «Брестский курьер» атрымала ліст з гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Вячаслава Хафізава, у якім паведамлялася, што «Брэсцкі гарвыканкам не лічыць магчымым дазволіць рэдакцыі

газеты яе рэалізацыю праз грамадскіх распаўсюднікаў». Пры гэтым ніякіх прэтэнзій або пытанняў да рэдакцыі, якая ўжо 15 гадоў распаўсюджвае газету з дапамогай прыватных распаўсюднікаў, у лісце не прыводзілася.

## 4.2. Красавік — май

### 4.2.1. Развіццё сітуацыі ў сферы СМІ

Красавік і май 2007 г. былі адзначаныя новымі фактамі пераследу грамадзян за выказванне меркавання.

3 красавіка ў Мінску арыштаваны публіцыст і палітык Андрэй Клімаў. Пракуратура прад'явіла яму абвінавачанне па арт. 361 КК РБ (публічныя заклікі да звяржэння дзяржаўнага ладу). Падставай для пачатку крымінальнай справы стаў артыкул за подпісам А. Клімава, размешчаны ў Інтэрнеце. 10 красавіка Праўленне грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выступіла з пратэстам у сувязі з крымінальным пераследам А. Клімава. БАЖ заклікала змяніць меру пакарання ў дачыненні палітыка і спыніць практыку крымінальнага пераследу за выказванне меркавання. 23 красавіка арышт Андрэя Клімава асудзілі «Рэпарцёры без межаў».

7 мая стала вядома, што журналіст і праваабаронца Валерый Шчукін абвінавачаны ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага арт. 189 КК («Знявага»). На думку следства, абраза ўтрымлівалася ва ўлётках, якія распаўсюджваліся В. Шчукіным падчас выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы ў снежні 2006 г. Ва ўлётках паведамлялася, што супрацоўнікі акруговых выбарчых камісій Віцебска падчас датэрміновага галасавання парушаюць заканадаўства. Крымінальная справа супраць В. Шчукіна была распачата ў маі 2006 г. пракуратурамі Першамайскага і Чыгуначнага раёнаў г. Віцебска.

Шырока ўжываўся ў гэты перыяд і новы Кодэкс «Аб адміністрацыйных правапарушэннях», які набыў сілу 1 сакавіка 2007 г. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягваліся журналісты і распаўсюднікі незалежнай прэсы ў Оршы (Віцебская вобл.) і Светлагорску (Гомельская вобл.). 22 мая ў Магілёве падчас студэнцкай акцыі супраць адмены льгот супрацоўнікі міліцыі затрымалі трох журналістаў і двух распаўсюднікаў прэсы, аднак праз гадзіну пасля затрымання іх адпусцілі.

У красавіку — маі было адзначана некалькі выпадкаў, калі СМІ змаглі абараніць свае правы. Так, 18 красавіка пракурор Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці Сяргей Замара запатрабаваў у рэдакцыі недзяржаўнай газеты «Ганцавіцкі час» накіроўваць «кантрольныя выпускі» газеты, зацверджаныя рэдакцыйнай пячаткай, у пракуратуру. (Раней ён вынес у адрас галоўнага рэдактара выдання Аляксея Белага і намесніка рэдактара Пятра Гузаеўскага афіцыйныя папярэджанні.) Рэдакцыя аспрэчыла патрабаванні пракурора. 17 мая Пракуратура Брэсцкай вобласці задаволіла скаргу рэдакцыі і накіравала С. Замару пісьмовае ўказанне адклікаць сваё патрабаванне. У адказе, падпісаным намеснікам пракурора вобласці А. Тачко, гаворыцца, што пракурору раёна даведзеная неабходнасць прымаць рашэнні ў працэсе службовай дзейнасці ў дакладнай адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. 21 мая пракурор Ганцавіцкага раёна адклікаў сваё патрабаванне.

Сярод іншых момантаў неабходна адзначыць і ўзнаўленне вясной 2007 г. выхаду недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты «Новы Час». Шэф-рэдактар газеты Аляксей Кароль раней рэдагаваў газету «Згода», зачыненую ў сакавіку 2006 г. па зыску Міністэрства інфармацыі. 25 мая павінна была адбыцца прэзентацыя ўзноўленага выдання, якое выходзіць штотыдзень накладам 2 500 асобнікаў, аднак яна была сарваная з прычыны адмовы арэндадаўцы памяшкання.

У цэнтры ўвагі журналісцкай грамадскасці ў красавіку 2007 г. знаходзіўся праект закона «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі», які паступіў у беларускі парламент. 2 красавіка ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» у адказ на свой запыт атрымала тэкст законапраекта і запрашэнне прыняць удзел у яго дапрацоўцы. 12 красавіка на прэс-канферэнцыі БАЖ агучыла свае заўвагі і прапановы, накіраваныя ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. На думку юрыстаў БАЖ, законапраект утрымлівае вялікую колькасць норм-спасылак (109 спасылак на іншыя нарматыўныя акты ў 58 артыкулах праекта), накіраваных на абмежаванне атрымання, захоўвання і распаўсюду інфармацыі, і павінен быць вернуты на дапрацоўку. Камісія Палаты прадстаўнікоў, абмеркаваўшы законапраект і заўвагі да яго, пагадзілася з гэтым і накіравала законапраект на дапрацоўку.

## 4.2.2. Асноўная праблема

У красавіку — маі 2007 г. на першы план выйшла праблема распаўсюду ў Беларусі замежнай інфармацыі і дзейнасці на тэрыторыі краіны карэспандэнтаў замежных СМІ.

Прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за працяг «дзейнасці ў інтарэсах замежных СМІ» гомельскі журналіст Анатоль Гатоўчыц аспрэчыў гэтае рашэнне суда Цэнтральнага раёна г. Гомеля, аднак 27 красавіка Гомельскі абласны суд адхіліў яго скаргу. Журналіст быў аштрафаваны за падрыхтоўку матэрыялаў для «Радыё Свабода» без акрэдытацыі пасля таго, як Гомельская абласная пракуратура вынесла яму афіцыйнае папярэджанне за падобныя дзеянні.

19 красавіка стала вядома, што ідэалагічнае ўпраўленне Магілёўскага аблвыканкама загадала спыніць трансляцыю ў кабельных сетках расійскага тэлеканала «ТВ 1000» і замяніць яго на расійскі ж праваслаўны канал «Благовест». У распараджэнні сцвярджалася, што рашэнне аб спыненні трансляцыі «ТВ 1000» прынятае ў адказ на просьбу тэлегледачоў, нібыта абураных тым, што ў начным эфіры тэлеканала дэманструюцца перадачы эратычнага характару.

Узгадненне пакетаў тэлепраграм, якія транслююцца кабельнымі аператарамі, з'яўляецца эфектыўным сродкам кантролю за зместам тэлеэфіру і кабельных сетак, да якіх мае доступ беларускі тэлеглядач. Яшчэ адным сродкам абмежавання паступлення ў краіну інфармацыі з-за мяжы з'яўляецца дазвольны парадак распаўсюду ў Беларусі друкаваных СМІ, зарэгістраваных у замежных дзяржавах (акрамя Расіі). Для гэтага патрабуецца пісьмовы дазвол Міністэрства інфармацыі.

У красавіку 2007 г. беларускія ўлады звярнулі ўвагу і на спадарожнікавае вяшчанне. Адразу ў некалькіх гарадах — Лідзе (Гродзенская вобл.), Пінску (Брэсцкая вобл.), Мінску — мясцовыя адміністрацыі выступілі з патрабаваннем дэмантажу спадарожнікавых тэлевізійных антэн, усталяваных на фасадах і дахах будынкаў. Службоўцы тлумачаць гэтыя патрабаванні эстэтычным выглядам гарадскіх вуліц і спасылаюцца на тое, што антэны ўсталяваныя без узгаднення з гарадскімі архітэктарамі. Жыхарам, якія адмаўляюцца выконваць гэтыя распараджэнні, пагражаюць штрафам. Арт. 21.13 новага Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях прадугледжвае адказнасць, у прыватнасці, за ўсталяванне на фасадах, балконах, лоджыях, дахах спадарожнікавых і іншых антэн (у КаАП, які дзейнічаў раней, такая норма адсутнічала).

Кампанію па дэмантажы спадарожнікавых «талерак» аналітыкі звязваюць з хуткім з'яўленнем спадарожнікавага тэлеканала «БЕЛСАТ», які павінен пачаць вяшчанне з тэрыторыі Польшчы 15 кастрычніка. Тэлеканал, арыентаваны на беларускае насельніцтва, павінен стаць альтэрнатывай беларускаму дзяржаўнаму тэлебачанню; перадачы «БЕЛСАТ» будуць рыхтаваць беларускія журналісты.

# 4.3. Чэрвень — жнівень

## 4.3.1. Развіццё сітуацыі ў сферы СМІ

Чэрвень — жнівень 2007 г. былі адзначаныя шматлікімі затрыманнямі распаўсюднікаў і журналістаў незалежнай прэсы, а таксама падвышанай «увагай» да прэсы супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ).

Так, 6 чэрвеня ў Мінску былі затрыманыя чацвёра моладзевых актывістаў, якія распаўсюджвалі незарэгістраваныя бюлетэні «Права на волю» і «6 м квадратных». 8 ліпеня распаўсюднік незарэгістраваных маланакладных газет быў затрыманы ў Оршы (Віцебская вобл.). Супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі ў яго 70 асобнікаў газет. 12 ліпеня ў Шклоўскім раёне (Магілёўская вобл.) была затрыманая карэспандэнтка газеты і сайта «Салідарнасць» Алена Якжык, якая рабіла фотаздымкі хаты жонкі прэзідэнта А. Лукашэнкі. Супрацоўнікі міліцыі прымусілі яе выдаліць зробленыя здымкі. 19 ліпеня міліцыянеры затрымалі некалькіх журналістаў, якія асвятлялі правядзенне аўтапрабегу, арганізаванага актывістамі незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт». Сярод затрыманых — карэспандэнт беларускай службы «Радыё Свабода» Любоў Лунёва, журналіст газеты «Белорусы и рынок» Генадзь Барбарыч, карэспандэнт Польскага радыё Марыя Кароль і рэдактар маланакладнай магілёўскай газеты «БУМ» Станіслаў Кавалеўскі. Журналістаў разам з удзельнікамі акцыі пад канвоем даставілі ў Дзяржынскі РУУС (Мінская вобл.), дзе пратрымалі каля 2 гадзін. 27 ліпеня ў Магілёве былі затрыманыя рэдактар і тэхнічны рэдактар, а таксама распаўсюднік незарэгістраванай газеты «Наш Магілёў». У распаўсюдніка былі канфіскаваныя 109 асобнікаў газеты.

23 жніўня супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па Мінскай вобласці правялі ператрус у кватэры прэс-сакратара незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт» журналіста Барыса Гарэцкага. У яго забралі сістэмны блок камп’ютэра і падшыўку недзяржаўнай газеты «Наша Ніва». У канцы жніўня КДБ правёў серыю допытаў маладых журналістаў у рэгіёнах. 28 жніўня ў Гродне былі выкліканыя на допыт два маладыя журналісты (якія пажадалі застацца неназванымі), у якіх супрацоўнікі КДБ спрабавалі даведацца мэты іх частых паездак у Польшчу і ці не маюць яны дачынення да польскага тэлеканала «Белсат», які павінен у бліжэйшыя месяцы пачаць спадарожнікавае вяшчанне на Беларусь. Супрацоўнікі КДБ пагражалі журналістам адказнасцю за шпіянаж і дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь і абяцалі выклікаць на допыт іх бацькоў. 29 жніўня ў Магілёве следчы аддзела ўпраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці выклікаў на допыт «у якасці сведкі» журналістку, якая таксама пажадала застацца неназванай. Аднак допыт з невядомых прычын перанеслі.

29 жніўня гродзенскі журналіст Іван Роман быў выкліканы ў пракуратуру Ленінскага раёна г. Гродна таксама ў якасці сведкі. Але пракурор стаў задаваць пытанні аб прафесійнай дзейнасці самога І. Романа. Пракурор цікавіўся некаторымі артыкуламі, размешчанымі ў ліпені на сайце польскага «Радыё Рацыя», у якіх нібыта «дыскрэдытуецца дзяржаўны орган».

У гэты перыяд незалежныя выданні сутыкаліся з праблемамі і іншага характару. 10 жніўня з рэдакцыі недзяржаўнай газеты «Народная воля» судовыя выканаўцы забралі 7 мані토раў, ксеракс і іншую аргтэхніку. Яны спасылаліся на неабходнасць выканаць судовае рашэнне, у адпаведнасці з якім «Народная воля» павінна выплаціць 2

млн. руб. (менш за 700 еўра) дырэктару аднаго з прадпрыемстваў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды. Тэхніку вярнулі толькі 13 жніўня, пасля таго, як грашовыя сродкі былі выплачаныя.

Сур'ёзнай праблемай для беларускіх СМІ заставаўся і доступ да інфармацыі. У чэрвені была распачатая спроба абмежаваць яго на заканадаўчым узроўні. 27 чэрвеня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ прыняла ў першым чытанні законапраект, у адпаведнасці з якім мэтазгоднасць публікацый і выступаў дзяржаўных службоўцаў у СМІ будуць вызначаць кіраўнікі дзяржаўных органаў. Для таго каб выступіць у СМІ, дзяржслужачыя павінны будуць атрымаць на гэта дазвол. 28 чэрвеня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» прыняло заяву, у якой адзначыла, што прыняцце згаданых паправак да закона «Аб дзяржаўнай службе» прывядзе да абмежавання свабоды прэсы, яшчэ больш закрытага характару дзейнасці дзяржаўных органаў, а таксама да абмежавання канстытуцыйнага права дзяржслужачых на выказванне свайго меркавання. БАЖ заклікала дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі выключыць з законапраекта гэтыя палажэнні.

Сярод іншых падзей летняга перыяду неабходна вылучыць працяг крымінальнага пераследу грамадзян за выказванне свайго меркавання. 8 чэрвеня суд Першамайскага раёна г. Віцебска прызнаў журналіста і праваабаронцу Валерыя Шчукіна вінаватым у знявазе (ч. 2 арт. 189 КК) сябраў выбарчых камісій падчас выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў 2007 г. і прысудзіў яго да штрафу. 25 ліпеня Віцебскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу В. Шчукіна.

1 жніўня суд Цэнтральнага раёна г. Мінска прызнаў вінаватым у закліках да гвалтоўнага зварання або змены канстытуцыйнага ладу з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі (арт. 361 КК) палітыка і публіцыста Андрэя Клімава. Ён асуджаны на два гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. Пра гэта стала вядома толькі праз месяц пасля вынясення прысуду. Судовы працэс быў зачыненым і прайшоў таемна ад грамадскасці. Размяшчэнне публікацый А. Клімава ў Інтэрнеце суд прызнаў выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі. Прысуд не ўступіў у законную сілу ў сувязі з яго абскарджаннем. Актыўны апанент дзеючай улады А. Клімаў знаходзіцца пад вартай з 3 красавіка 2007 г. Раней ён правёў 4 гады ў зняволенні па абвінавачанні ў эканамічных злачынствах і быў асуджаны да 15 месяцаў абмежавання волі за арганізацыю вулічных акцый пратэсту ў 2005 г. «Міжнародная амністыя» прызнала Андрэя Клімава вязнем сумлення.

14 жніўня была адноўленая крымінальная справа супраць заснавальніка самвыдатаўскага штотыднёвага бюлетэня «Бойкий Клецк» Сяргея Панамарова. Крымінальная справа, распачатая 14 мая па ч. 2 арт. 188 КК (знявага ў СМІ), была спыненая 18 чэрвеня, пасля правядзення лінгвістычнай экспертызы, за адсутнасцю складу злачынства. Аднаўленне крымінальнай справы С. Панамароў звязвае з накіраваннем ім у мясцовы райвыканкам заяўкі на правядзенне пікета ў абарону асуджанага экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна і іншых палітвязняў.

## 4.3.2. Асноўная праблема

Летам 2007 г. пад асаблівай увагай у Беларусі зноў апынуўся Інтэрнет.

2 жніўня прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Анархію ў Інтэрнеце трэба спыніць. Нельга дапускаць, каб гэтае тэхнічнае дасягненне ператварылася ў інфармацыйную памыйніцу… Трэба прыняць закон і прапісаць у ім статус электронных СМІ».

3 жніўня «Рэпарцёры без межаў» выступілі з заявай, у якой выказалі глыбокую занепакоенасць у сувязі з гэтымі выказваннямі кіраўніка беларускай дзяржавы. «Галоўная пагроза для беларускага Інтэрнету — павольная смерць у выніку рэпрэсій, арганізаваных на самым высокім урадавым узроўні. Кантроль, усталяваны беларускімі ўладамі над онлайн-навінамі і інфармацыяй — адзін з самых строгіх сярод усіх краін былога Савецкага Саюза». «Рэпарцёры без межаў» нагадалі аб урадавай пастанове ад 10 лютага, якая ўсталявала дадатковы кантроль за працай інтэрнет-клубаў, аб шырока распаўсюджанай практыцы блакавання інтэрнет-рэсурсаў падчас выбараў, а таксама аб іншых фактах ціску на масмедыя ў Беларусі.

Насуперак тэзісу ўлад аб непадкантраляванасці Інтэрнету, у Беларусі нярэдкія выпадкі прыцягнення да адказнасці за дзейнасць у сеціве. Апошні выпадак такога кшталту — асуджэнне апазіцыйнага палітыка і публіцыста А. Клімава.

Выказванні Аляксандра Лукашэнкі пра неабходнасць «спыніць анархію ў Інтэрнеце» актывізавалі дзейнасць розных дзяржаўных структур і службовых асоб. Аднавілася праца над праектам закона «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі», які планавалася адправіць на дапрацоўку і не разглядаць на восеньскай сесіі беларускага парламента (сярод іншага законапраект рэгламентуе і дзейнасць у Інтэрнеце). Намеснік міністра інфармацыі Аляксандр Слабадчук у інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс» 20 жніўня паведаміў аб стварэнні на рэспубліканскім узроўні працоўнай групы, якая зоймецца «вывучэннем і прапрацоўкай» праблемы заканадаўчага рэгулявання Інтэрнэту. Спасылаючыся на досвед замежных краін у рэгуляванні інтэрнет-прасторы, А. Слабадчук назваў у першую чаргу «кітайскі варыянт», сутнасць якога, паводле яго слоў, «у строгім, з улікам нацыянальных традыцый, кантролі за дзейнасцю ў Інтэрнеце».

Эксперты лічаць, што спробы заканадаўчага рэгулявання інтэрнет-прасторы маюць на мэце абмежаванне свабоды распаўсюду інфармацыі ў беларускім сегменце Глабальнага сеціва. Становяцца верагоднымі наданне інтэрнет-рэсурсам статусу сродкаў масавай інфармацыі з неабходнасцю іх рэгістрацыі ў Міністэрстве інфармацыі, а таксама пашырэнне прававой базы для прыцягнення да адказнасці асоб, чыя дзейнасць у Інтэрнеце выклікае незадаволенасць беларускіх улад.

## 4.4. Верасень — кастрычнік

### 4.4.1. Развіццё сітуацыі ў сферы СМІ

У верасні і кастрычніку, як і летам, беларускіх журналістаў неаднаразова затрымлівалі супрацоўнікі сілавых ведамстваў (гл. «Асноўная праблема»).

Працягваўся пераслед журналістаў, якія працуюць для замежных СМІ, што вяшчаюць на Беларусь. 3 верасня пракуратура Гродзенскай вобласці вынесла афіцыйныя папярэджанні на адрас журналістаў Наталлі Макушынай і Івана Романа за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. 21 верасня такое ж папярэджанне ад пракуратуры Гомельскай вобласці атрымаў гомельскі журналіст Алесь Карніенка.

Чыніліся перашкоды распаўсюду незалежнай прэсы.

26 верасня супрацоўнікі Жлобінскага РУУС (Гомельская вобл.) затрымалі два аўтамабілі з часткай накладу газеты «Товарищ» (каля 7 тыс. асобнікаў). 27 верасня каля 10 тыс. асобнікаў газеты міліцыянеры забралі ў мінскім офісе рэдакцыі. Гэты нумар быў прысвечаны запланаванай на лістапад акцыі апазіцыі «Сацыяльны марш». Газеты былі вернутыя толькі ў канцы лістапада пасля звароту ў пракуратуру. 30 кастрычніка ў Віцебску ў распаўсюднікаў міліцыянеры забралі каля 400 асобнікаў газеты «Народная воля». «Арыштаваныя» газеты нават не пералічваліся, а ў пратаколе запісана аб канфіскацыі «15 кілаграмаў» газет.

У распачаты падпісны перыяд большасць недзяржаўных газет па-ранейшаму не былі ўключаныя ў падпісны каталог дзяржаўнага прадпрыемства-манапаліста «Белпошта». Так, брэсцкі філіял «Белпошты» ў чарговы раз паказаў, што лічыць «немэтазгодным» супрацоўніцтва з газетай «Ганцавіцкі час». Між тым, да выключэння гэтага выдання з каталога ў 2006 г. яно ўваходзіла ў тройку самых папулярных газет, якія распаўсюджваліся на Ганцаўшчыне па падпісцы (разам з мясцовай дзяржаўнай газетай «Савецкае Палессе» і газетай Адміністрацыі Прэзідэнта «Советская Белоруссия»). Да таго ж, як адзначыў галоўны рэдактар «Ганцавіцкага часу» Пётр Гузаеўскі, супрацоўніцтва з яго газетай для «Белпошты» было больш выгадным, чым з дзяржаўнай прэсай, распаўсюд якой здзяйсняецца па льготных тарыфах.

На фоне адмовы дзяржаўных прадпрыемстваў «Белпошта» і «Саюздрук» распаўсюджваць незалежныя газеты працягвалася прымусовая падпіска на дзяржаўную прэсу. Так, 6 верасня старшыня Баранавіцкага гарвыканкама выдаў распараджэнне, у якім даручыў кіраўнікам усіх баранавіцкіх прадпрыемстваў і арганізацый забяспечыць падпіску на мясцовую дзяржаўную газету «Наш край» для павелічэння накладу газеты на 20%. У Карэлічах (Гродзенская вобл.) супрацоўнікаў бюджэтных арганізацый і ўстаноў пад пагрозай пазбаўлення прэміі абавязвалі падпісацца на камплект дзяржаўных газет (у камплекце «Советская Белоруссия», раённая газета «Полымя», а таксама «профільнае» дзяржаўнае выданне — напрыклад, «Медицинский вестник» для медыкаў).

Эканамічная дыскрымінацыя прывяла да спынення выхаду газеты «Мясцовы час», якая распаўсюджвалася ў Пінску і рэгіёне (Брэсцкая вобл.). 27 верасня выданне, якое адзначыла сваё 4-годдзе, развіталася з чытачамі. Паводле слоў рэдактара газеты Аляксея Белага, праблемы ў газеты пачалі ўзнікаць адразу ж пасля выхаду выдання.

Спачатку карэспандэнтам газеты адмовілі ў акрэдытацыі, потым мясцовая друкарня адмовілася друкаваць газету, і яе давялося вазіць з г. Баранавічы за 170 км ад Пінска. Неўзабаве газеце адмовілі ў падпісцы па каталозе «Белпошты» і ў магчымасці распаўсюджвацца праз шапікі «Брэстсаюздруку». У выніку наклад газеты знізіўся з 2500 асобнікаў да 1300, пасля чаго заснавальнік прыняў рашэнне аб прыпыненні выпуску газеты.

Праблемы з друкам і распаўсюдам ускладняюцца ціскам на газеты з дапамогай прававых механізмаў. 1 кастрычніка суд Ленінскага раёна г. Мінска спагнаў з газеты «Народная воля» і журналісткі Марыны Коктыш на карысць кіраўніка Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта, памочніка прэзідэнта Алега Праляскоўскага 27 млн. руб. (больш за 12 тыс. долараў). Галоўны ідэолаг краіны накіраваў зыск аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі ў сувязі з публікацыяй у газеце артыкула, у якім гаворка ішла пра арышт яго першага намесніка. Паказальна, што менавіта А. Праляскоўскаму ў адказ на зварот рэдактара газеты «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча прэзідэнт А. Лукашэнка даручыў «разабрацца» з праблемамі газеты, якія ўзніклі з прычыны адмовы беларускіх друкарняў друкаваць выданне, а дзяржаўных прадпрыемстваў «Белпошта» і «Саюздрук» — яго распаўсюджваць.

Сярод іншых судовых працэсаў неабходна вылучыць рашэнне касацыйнай інстанцыі (калегіі Мінскага гарадскога суда), якая пакінула без змен прысуд палітыку і публіцысту Андрэю Клімаву, асуджанаму ў жніўні на 2 гады за артыкул, размешчаны ў Інтэрнеце. Разгляд касацыйнай скаргі, як і працэс у першай інстанцыі, быў зачыненым.

## 4.4.2. Асноўная праблема

Адной з асноўных праблем у гэты перыяд былі затрыманні журналістаў.

10 верасня ў Баранавічах (Брэсцкая вобл.) былі затрыманыя журналісты Васіль Фядосенка (агенцтва «Reuters»), Віктар Драчоў (агенцтва «France-Presse»), Севярын Квяткоўскі («Радыё Свабода») і пазаштатны аўтар газеты «Наша Ніва» Арсень Пахомаў. Журналістаў, якія прыехалі для асвятлення судовага працэсу над моладзевым актывістам Яраславам Грышчэням, абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мітынгу і ў дробным хуліганстве. Пасля штатныя карэспандэнты замежных СМІ былі адпушчаныя. У дачыненні А. Пахомава, які правёў у Баранавіцкім РУУС каля 7 гадзін, быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. 21 верасня ён быў аштрафаваны па сфабрыкаваным абвінавачванні ў хуліганстве.

23 верасня на беларуска-ўкраінскай мяжы былі затрыманыя журналісты, якія вярталіся з рок-фэсту «Права быць свабодным». Супрацоўнікі беларускай мытні скапіявалі інфармацыю з фотаапаратаў і праслухалі дыктафонныя запісы журналістаў.

10 кастрычніка суд Ленінскага раёна г. Гродна асудзіў журналіста Івана Романа на 5 сутак адміністыўнага арышту за дробнае хуліганства. Прэсу на працэс не пусцілі. Я. Роман быў затрыманы напярэдадні. Сам журналіст звязвае гэтае затрыманне з тым, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. патрапіў у «чорныя спісы», і зараз міліцыя затрымлівае яго перад кожнай акцыяй апазіцыі (у дадзеным выпадку — перад «Еўрапейскім маршам» 14 кастрычніка), выконваючы «план» па нейтралізацыі патэнцыйных удзельнікаў акцыі. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. Ян Роман адбываў арышт па тых жа абвінавачаннях.

Увечары 10 кастрычніка ў Гродне міліцыя затрымала і рэдактара часопіса незалежнага Саюза палякаў Беларусі «Magazyn Polski na uchodzstwie» Ігара Банцара. Яго таксама абвінавацілі ў дробным хуліганстве — лаянцы ў грамадскім месцы. Пасля таго як суд асудзіў журналіста да арышту, І. Банцар абвясціў галадоўку. У выніку ён быў вызвалены датэрмінова.

30 кастрычніка пад Віцебскам міліцыя затрымала 27 чалавек, якія сабраліся на месцы масавых расстрэлаў сталінскіх часоў побач з вёскай Паляі. Сярод затрыманых былі і журналісты Алена Сцяпанава, Леанід Свецік, Вадзім Баршчэўскі, Сяргей Пятрэнка. Усіх затрыманых даставілі ў АУС Віцебскага раёна для «высвятлення абставін». Пасля таго як журналісты паказалі свае журналісцкія пасведчанні, яны былі адпушчаныя.

Выпадкі затрымання журналістаў падчас выканання імі сваіх службовых абавязкаў у Беларусі нярэдкія. Найбольшы рэзананс за апошні час выклікалі затрыманні беларускіх і замежных журналістаў падчас кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2006 г. Тады па надуманых абвінавачаннях былі затрыманыя 46 журналістаў, і толькі адзін з іх быў апраўданы. Большасць жа былі арыштаваныя на тэрмін да 15 сутак.

Затрыманні журналістаў парушаюць іх правы, прадугледжаныя арт. 39 закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»: прысутнічаць у раёнах стыхійных катаклізмаў, аварый і катастроф, ваенных дзеянняў, у мясцовасцях, дзе абвешчана надзвычайнае становішча, на мітынгах і дэманстрацыях, на месцы іншых грамадска

значных падзей і перадаваць адтуль інфармацыю; рабіць запісы, у тым ліку з выкарыстаннем сродкаў аўдыёвізуальнай тэхнікі, кіна- і фотаздымак. Нават калі пасля журналістаў адпускаюць (як у большасці выпадкаў у разгляданы перыяд), яны не могуць у поўнай меры выканаць свае прафесійныя абавязкі.

Нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з арт. 48 Закона «Аб друку» парушэнне правоў журналістаў і прымус журналіста да адмовы ад распаўсюду інфармацыі (напрыклад, шляхам знішчэння зробленых ім фатаграфій) прызнаюцца ўціскам свабоды СМІ, грамадскаму аб'яднанню «Беларуская асацыяцыя журналістаў» не вядомыя выпадкі прыцягнення да адказнасці за падобныя парушэнні супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

# 4.5. Лістапад — снежань

## 4.5.1. Развіццё сітуацыі ў сферы СМІ

У лістападзе — снежні 2007 г. у сферы СМІ ў Беларусі адбылося некалькі падзей, якія прыцягнулі ўвагу грамадскасці.

12 лістапада Віцебскі аблвыканкам адмяніў сваё ж рашэнне аб перарэгістрацыі ЗАТ «Выдавецкі дом «Витебский курьер», якое з'яўляецца выдаўцом і рэдакцыяй газеты «Витебский курьер М». Старшыня аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка спаслаўся на тое, што рэдакцыя не ўзгадніла сваё размяшчэнне з мясцовымі ўладамі, а яе памяшканне не адпавядае патрабаванням прэзідэнцкай Дырэктывы № 1 «Аб мерах па ўзмацненні грамадскай бяспекі і дысцыпліны». Рэдакцыя плануе абскардзіць узгаданае рашэнне Віцебскага аблвыканкама. Калі яго адмяніць не атрымаецца, недзяржаўная газета «Витебский курьер М», якая вымушаная была прыпыніць свой выхад вясной, страціць магчымасць аднавіць сваю дзейнасць.

Яшчэ адна рэгіянальная газета, «Бобруйский курьер» (Магілёўская вобл.), атрымала афіцыйнае папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. Выданне абвінавацілі ў распаўсюдзе недакладнай інфармацыі на той падставе, што яно назвала «мітынгам» афіцыйнае вулічнае мерапрыемства, якое праводзілася гарвыканкамам з нагоды чарговых угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Адразу пасля з'яўлення ў газеце публікацыі «Праздник, ушедший в прошлое» («Свята, якое сышло ў мінулае») начальнік аддзела ідэалагічнай працы Бабруйскага гарвыканкама выклікаў рэдактара газеты Анатоля Санаценку і пагражаў ужываннем санкцый і, у прыватнасці, зваротам у Міністэрства інфармацыі. Пра тое, што «мітынг у рамках дадзенага мерапрыемства не праводзіўся», гаворыцца і ў папярэджанні, падпісаным 11 снежня першым намеснікам міністра Ліліяй Ананіч.

Вынікам кантролю ўладаў за зместам СМІ сталі змены кіраўніцтва дзяржаўнай газеты «Минский курьер» і інфармацыйнага агенцтва «Минск-Новости». 12 снежня старшыня Мінгарвыканкама Міхаіл Паўлаў адправіў у адстаўку генеральнага дырэктара агенцтва «Минск-Новости» Рыгора Новікава і в. а. галоўнага рэдактара газеты «Минский курьер» Наталлю Бязвершанка. Гэта здарылася пасля з'яўлення ў газеце інтэрв'ю з алімпійскім чэмпіёнам і палітыкам Уладзімірам Парфяновічам у гонар дня яго нараджэння (у парламенце мінулага склікання У. Парфяновіч уваходзіў у апазіцыйную фракцыю «Рэспубліка»). Мінгарвыканкам з'яўляецца заснавальнікам інфармацыйнага агенцтва «Минск-Новости», куды ўваходзяць газета «Минский курьер» і радыёпраграма «Радио-Минск».

20 снежня суд Першамайскага раёна г. Мінска часткова задаволіў зыск генерала, пісьменніка і сенатара верхняй палаты беларускага парламента Мікалая Чаргінца да газеты «Новы Час» і журналіста Аляксандра Тамковіча. Прэтэнзіі М. Чаргінца былі выкліканыя публікацыяй у газеце нарыса А. Тамковіча, дзе той выказваў свае ацэнкі творчасці і дзейнасці М. Чаргінца. Беспрэцэдэнтная па беларускіх мерках сума (600 млн. руб., што эквівалентна 280 тыс. долараў), якую патрабаваў зыскоўца ў якасці кампенсацыі маральнай шкоды, на думку шматлікіх экспертаў, сведчыла аб тым, што мэтай зыску з'яўляецца спыненне выхаду незалежнай газеты. Тым больш, што менавіта ў «Новым Часе» публікуецца літаратурная старонка незалежнага Саюза беларускіх пісьменнікаў, «афіцыйную» альтэрнатыву якому ўзначальвае М. Чаргінец. У звязку з

зыскам высокапастаўленай службовай асобы (у 2001 г. ён узначальваў выбарчы штаб Аляксандра Лукашэнкі) выступілі Рада Еўропы, Камітэт абароны журналістаў (Нью-Йорк), іншыя міжнародныя і беларускія арганізацыі і структуры.

Падчас судовых слуханняў М. Чаргінец значна знізіў запатрабаваную суму (50 млн. руб. з газеты і 5 млн. руб. з журналіста). Суд задаволіў гэтыя патрабаванні амаль цалкам, зменшыўшы памер спагнання з А. Тамковіча да 1 млн. руб. Тым не менш і 50 млн. руб. ставяць пад пагрозу выхад газеты «Новы Час», якая, як і шматлікія іншыя беларускія незалежныя выданні, выключаная з дзяржаўных сістэм распаўсюду друкаваных выданняў. Рашэнне па зыску М. Чаргінца ў законную сілу не ўступіла ў сувязі з яго абскарджаннем адказчыкамі.

Сярод станоўчых момантаў згаданага перыяду варта вылучыць спыненне крымінальнай справы ў дачыненні выдаўца незарэгістраванай маланакладнай газеты «Бойкий Клецк» Сяргея Панамарова і адкрыццё новых медыяпраектаў.

Справа ў дачыненні С. Панамарова па арт. 188 ч. 2 КК Рэспублікі Беларусь (паклёп, які ўтрымліваецца ў публічным выступе альбо ў СМІ) была распачатая яшчэ ў маі і з таго часу спынялася і аднаўлялася 6 разоў. Апошні раз яна была адноўленая пракуратурай Клецкага раёна (Мінская вобл.) 21 лістапада. Але ўжо 28 лістапада пракуратура ў чарговы раз зачыніла справу ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства.

У лістападзе — снежні з'явіліся паведамленні аб пачатку вяшчання двух інтэрнэт-радыё.

20 лістапада пачалося тэставае вяшчанне інтэрнэт-радыёстанцыі «NETRadio», якая, як сцвярджаюць яе стваральнікі, стане першым прафесійным інтэрнэт-радыё ў Беларусі. 6 снежня пачало вяшчанне інтэрнэт-радыё парталу TUT.BY (брэнд — «Радыё TUT»). Апроч музычнага вяшчання канал плануе кожныя паўгадзіны перадаваць online навіны. У сувязі з недастатковым распаўсюдам у Беларусі тэхналогій шырокапалоснага доступу ў сеціве арганізатары «Радыё TUT» называюць яго адкрыццё эксперыментальным.

10 снежня на тэрыторыі Польшчы пачаў тэставае вяшчанне спадарожнікавы тэлеканал «TV Беларусь» (гандлёвая марка «Белсат»). У перыяд тэставага вяшчання, якое працягнецца каля двух месяцаў, канал будзе працаваць тры гадзіны ў суткі, затым пяройдзе на вяшчанне па 16 гадзін у суткі. Дамова аб стварэнні спадарожнікавага тэлеканала «TV Беларусь» была падпісаная 23 красавіка 2007 г. паміж Польскім грамадскім тэлебачаннем (TVP) і Міністэрствам замежных спраў Польшчы. У 2007 г. для «TV Беларусь» выдаткавана 16 млн. злотых (каля 4 млн. еўра).

У бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2008 г., прынятым 26 снежня 2007 г., на фінансаванне СМІ выдаткавана 158 981 198 тыс. руб. (каля 74 млн. долараў), з іх на фінансаванне тэлебачання і радыё — 121 927 423 тыс. руб. (больш за 56 млн. долараў). Яшчэ 15 899 505 тыс. руб. (больш за 7 млн. долараў) прадугледжана на падтрымку перыядычнага друку і выдавецтваў, а 21 154 270 тыс. руб. (каля 10 млн. долараў) — на іншыя выдаткі сродкаў масавай інфармацыі. Датуюцца пераважна дзяржаўныя СМІ, а таксама СМІ, абраныя Міністэрствам інфармацыі на непразрыстай аснове.

Сярод іншых дакументаў, разгледжаных Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, варта вылучыць законапраект «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі». 12 снежня ён быў прыняты ў першым чытанні. Яшчэ на пачатку працы над законапраектам эксперты адзначалі, што ён накіраваны на

абмежаванне свабоды інфармацыі і ўтрымлівае вялікую колькасць норм-спасылак, што стварае перадумовы для рэгулявання інфармацыйнай сферы падзаконнымі актамі. Шматлікія заўвагі міжнародных экспертаў і ГА «БАЖ» распрацоўшчыкамі законапраекта пасля былі ўлічаныя (напрыклад, замацавана, што закон не пашыраецца на адносіны ў сферы СМІ, і выдаленыя згадкі пра Інтэрнет). Тым не менш праект закона захаваў рамачны і абмежавальны характар.

## 4.5.2. Асноўная праблема

У канцы 2007 г. у Беларусі нечакана аднавілася справа па абвінавачанні ў сувязі з «карыкатурным скандалам» намесніка рэдактара газеты «Згода» Аляксандра Здзвіжкова.

Крымінальная справа была распачатая пасля перадруку ў газеце «Згода» (№ 6 ад 18–26.02.2006 г.) карыкатур на прарока Мухамеда з дацкай прэсы. Той факт, што наклад газеты распаўсюджаны не быў, на развіццё падзей не паўплываў.

21 лютага 2006 г. Міністэрства замежных спраў Беларусі заявіла, што «рашуча асуджае любыя наўмысныя дзеянні, якія могуць стаць нагодай распальвання міжрэлігійнай варожасці». 22 лютага супрацоўнікі КДБ правяліператрус у рэдакцыі газеты. У той жа дзень была распачатая справа па ч. 1 арт. 130 КК РБ (распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці). Ініцыявалі пачатак крымінальнай справы Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў РБ і мусульманскія суполкі Беларусі. Пазней высветлілася, што ксеракопію газеты з карыкатурамі прадстаўнікам мусульманскіх суполак паказалі службоўцы Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў і прапанавалі напісаць зварот у праваахоўныя органы. Аб гэтым заявіў падчас судовага працэсу старшыня «Духоўнага ўпраўлення мусульман у Рэспубліцы Беларусь» муфцій Ісмаіл Варановіч. Паводле слоў муфція, ён супраць асуджэння А. Здзвіжкова і нічога не ведаў аб закрыцці газеты «Згода», у якой з'явіліся карыкатуры. Газета спыніла існаванне 17 сакавіка 2006 г. рашэннем Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь па зыску Міністэрства інфармацыі. У сакавіку ж Пракуратура Рэспублікі Беларусь прад'явіла абвінавачанне А. Здзвіжкову па крымінальнай справе аб перадруку карыкатур. Справа была прыпынена таму, што следства не магло даведацца пра месцазнаходжанне абвінавачванага.

18 лістапада 2007 г. А. Здзвіжкоў быў затрыманы, калі прыехаў у Беларусь наведаць магілу бацькі, і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ.

Слуханні па справе пачаліся 11 студзеня і неўзабаве былі абвешчаныя зачыненымі. Стала вядома, што абвінавачанне перакваліфікаванае на цяжэйшую частку 2 арт. 130 КК і пракурор патрабуе асудзіць А. Здзвіжкова на 4 гады пазбаўлення волі. 18 студзеня суддзя Мінскага гарадскога суда Руслан Аніскевіч асудзіў А. Здзвіжкова на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

З пратэстамі супраць асуджэння журналіста і заклікам вызваліць яго выступілі Камітэт абароны журналістаў (CPJ, Нью-Йорк), прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Міклаш Харашці, міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў», «Дацкі саюз журналістаў» і інш.

22 лютага Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь, разгледзеўшы на зачыненым пасяджэнні касацыйную скаргу А. Здзвіжкова, паменшыў тэрмін пакарання да 3 месяцаў, прыняўшы да ўвагі «выключныя абставіны»: стан здароўя журналіста і неабходнасць утрымліваць маці. Разам з тым, Вярхоўны суд палічыў віну журналіста даказанай.

Паколькі трохмесячны тэрмін пакарання скончыўся, у той жа дзень А. Здзвіжкоў быў вызвалены з-пад варты.

# 5. Рэйтынгі і падзеі

3 студзеня 2007 г. Інстытут праблем інфармацыйнага права (г. Масква, РФ) падвёў вынікі аналізу заканадаўства аб СМІ краін СНД і Балтыі за 2006 г. Сярод 15 краін — былых рэспублік СССР Беларусь заняла 13-е месца (ніжэй апынуліся Казахстан і Туркменія). У якасці крытэрыяў гарантыі свабоды масмедыя разглядаліся наяўнасць або адсутнасць заканадаўчых гарантый розных аспектаў дзейнасці СМІ (па 13 пытаннях).

6 сакавіка стала вядома, што беларускамоўная грамадска-палітычная газета «Наша Ніва» і незарэгістраваны моладзевы часопіс на кампакт-дысках «CDmag» сталі пераможцамі прэміі ім. Герда Буцэрыуса «Маладая прэса Усходняй Еўропы» за 2006 г., якую фонд «Цайт-Шціфтунг» уручае з 1999 г.

7 сакавіка ДзяржДэпартамент ЗША апублікаваў Справаздачу аб правах чалавека ў свеце. У справаздачы адзначаецца, што беларускія ўлады ў 2006 г. працягвалі абмяжоўваць свабоду друку: «адвольна канфіскоўвалі друкаваныя матэрыялы ў актывістаў грамадскай супольнасці і зачынялі незалежныя газеты або абмяжоўвалі іх распаўсюд. На нешматлікія ацалелыя незалежныя выданні часта накладаліся штрафы, звычайна пасля абвінавачвання ў паклёпе або за невыкананне жорсткіх працэдур рэгістрацыі».

2 мая ў Мінску пачала працу чарговая выстава «СМІ ў Беларусі». На ёй была шырока прадстаўленая дзяржаўная прэса як грамадска-палітычнага, так і забаўляльнага характару, а таксама дзяржаўныя радыёстанцыі і тэлекампаніі Беларусі. Недзяржаўныя грамадска-палітычныя газеты і часопісы ўжо некалькі гадоў не экспануюцца на стэндах спецыялізаванай выставы.

У гэты ж дзень, 2 мая, стала вядома, што ў штогадовай справаздачы праваабарончай арганізацыі «Freedom House» за 2006 г. Беларусь па ўзроўні свабоды прэсы аднесеная да ліку «несвабодных» краін і знаходзіцца на 186-м месцы ў спісе з 195 краін свету. «Freedom House» канстатуе, што ўлады ў Беларусі выкарыстоўваюць дзяржаўную манаполію на друк і распаўсюд перыядычных выданняў. Сітуацыя са свабодай слова і друку горш, чым у Беларусі, толькі ў Паўночнай Карэі, Туркменістане, Лівіі, на Кубе, у Бірме, Эрытрэі, Узбекістане, Зімбабве і Экватарыяльнай Гвінеі. «Следам за такімі краінамі, як Расія, беларускія ўлады спрабуюць кантраляваць таксама і Інтэрнет — апошнюю крыніцу незалежнай думкі…»

3 мая галоўны рэдактар нацыянальнай недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты «Народная воля» Іосіф Сярэдзіч стаў лаўрэатам Ганаровага дыплома імя І. Герменчука «За адданасць прынцыпам свабоды слова» ў 2007 г. Узнагарода была заснаваная ў 2005 г. ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» сумесна з Нарвежскім ПЭН-цэнтрам і нарвежскай праваабарончай арганізацыяй «Дом правоў чалавека».

7 мая было абвешчана, што рэдактар сайта «Нашай Нівы» Андрэй Дынько стаў адным з 15 лаўрэатаў прэстыжнай міжнароднай прэміі імя Ларэнца Наталі за 2006 г. Журналіст быў адзначаны за свой «турэмны» дзённік, які быў апублікаваны ў газеце «Наша Ніва» яшчэ да таго, як аўтар выйшаў на волю. (А. Дынько быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці падчас леташніх акцый пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў.)

5 чэрвеня ў Мінску адбыўся семінар «Узаемадзеянне СМІ і прэс-службаў у дэмакратычным грамадстве», арганізаваны АБСЕ са згоды афіцыйнага Мінска. Паводле слоў прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ Міклаша Харашці, абраная для абмеркавання тэма паказвае, наколькі далёка беларускія службоўцы гатовыя ісці ў разглядзе пытанняў дзейнасці СМІ. Напярэдадні, 4 чэрвеня, на сустрэчы з журналістамі М. Харашці заявіў, што сітуацыя са свабодай СМІ ў Беларусі не змянілася: існуе «практычна поўная манаполія дзяржавы на друк і распаўсюд газет, а тэлебачанне знаходзіцца цалкам пад дзяржаўным кантролем». Паводле слоў Харашці, закон аб СМІ «абмяжоўвае дзейнасць СМІ і выкарыстоўваецца як сродак пакарання».

21 чэрвеня ў г. Осла адбылася ўрачыстая цырымонія ўшанавання лаўрэатаў прэміі імя Герда Буцэрыуса (вядомай таксама як прэмія «Zeit»), якой узнагароджваюцца лепшыя выданні Усходняй Еўропы. Сёлета сярод лаўрэатаў прэміі былі два беларускія выданні: газета «Наша Ніва» і моладзевы мультымедыйны праект «CDmag». Па словах былога галоўнага рэдактара «Нашай Нівы» Андрэя Дынько, гэтая ўзнагарода «з’яўляецца адзнакай нашай дзейнасці, калі незалежная прэса знаходзіцца на мяжы вымірання».

7 ліпеня, у сёмыя ўгодкі выкрадання аператара расійскага тэлеканала «ОРТ» беларускага журналіста Зміцера Завадскага, каля дома, дзе ён жыў, ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» правяло акцыю памяці. Удзел у ёй прыняла маці зніклага журналіста Вольга Завадская. Журналіст знік 7 ліпеня 2000 г., калі паехаў у аэрапорт сустракаць свайго калегу Паўла Шарамета. На стаянцы ў аэрапорце П. Шарамет знайшоў толькі пустую машыну Завадскага. Пасля ў яго выкраданні былі абвінавачаныя некалькі былых супрацоўнікаў спецпадраздзялення міліцыі «Алмаз» і асуджаныя да працяглых тэрмінаў пазбаўлення волі (у тым ліку за іншыя злачынствы). Аднак лёс Зміцера Завадскага так і застаўся нявысветленым.

14 жніўня ў Мінску правядзеннем круглага стала пачалася інфармацыйная кампанія «Журналісты за гістарычную спадчыну», арганізаваная ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Удзел у круглым стале ўзялі прадстаўнікі Міністэрства культуры, гісторыкі, мастацтвазнаўцы, архітэктары, рэстаўратары з Мінска, Гродна і Слуцку. Эксперты ў прысутнасці журналістаў абмяняліся меркаваннямі па пытаннях захавання і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры. Асноўная мэта кампаніі «Журналісты за гістарычную спадчыну» — прыцягнуць увагу грамадства да паступовага разбурэння помнікаў даўніны ў Беларусі і садзейнічаць спыненню негатыўных працэсаў.

4 верасня споўніўся год з дня выхаду першага нумара «Ежедневника» — першай і пакуль адзінай у Беларусі электроннай газеты, якая распаўсюджваецца выключна праз Інтэрнет (па электроннай пошце ў фармаце PDF). На канец кастрычніка колькасць падпісчыкаў электроннай газеты дасягнула 19 тысяч.

10 верасня ў Мінску адбылося ўручэнне прэміі «За мужнасць і прафесіяналізм» імя Зміцера Завадскага, якую заснавалі «Першы канал» (Расія) і ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Яе лаўрэатамі за 2007 г. сталі журналісты Генадзь Барбарыч, Анатоль Гатоўчыц і Наталля Макушына.

У той жа дзень галоўнаму рэдактару газеты «Народная воля» Іосіфу Сярэдзічу быў уручаны Ганаровы дыплом імя Ігара Герменчука «За адданасць прынцыпам свабоды слова», заснаваны БАЖ разам з Нарвежскім ПЭН-цэнтрам і нарвежскай арганізацыяй «Дом правоў чалавека».

16 кастрычніка «Рэпарцёры без межаў» апублікавалі рэйтынг Worldwide Press Fredom Index 2007. Паводле меркавання міжнародных экспертаў, сітуацыя са СМІ ў Беларусі засталася прыблізна такой жа, як і летась: па ўзроўні свабоды СМІ дзяржава знаходзіцца на 151-м месцы са 169.

У студзені 2008 г. была апублікаваная чарговая справаздача міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Human Rights Watch». У справаздачы адзначаецца ўзмацненне рэпрэсіўнага кантролю за свабодай СМІ і іншымі палітычнымі свабодамі ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. «Human Rights Watch» адзначае адсутнасць у краіне незалежных тэлерадыёвяшчальных станцый, сталы ціск на нешматлікія недзяржаўныя грамадска-палітычныя СМІ, большасць з якіх не распаўсюджваецца дзяржаўнымі прадпрыемствамі-манапалістамі па падпісцы і продажы ў раздроб, спробы ўзяць пад кантроль Інтэрнет. Сярод падзей у сферы СМІ праваабаронцы вылучаюць стварэнне міжведамаснай групы для вывучэння міжнароднага досведу рэгулявання інтэрнет-прасторы, асуджэнне да 2 гадоў пазбаўлення волі Андрэя Клімава за публікацыю ў Інтэрнеце, затрыманні ўвосень 2007 г. журналістаў, якія асвятлялі судовыя працэсы над моладзевымі лідэрамі, арышт накладу газеты «Товарищ» у верасні і выключэнне з Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце РБ студэнта-выдатніка Юрыя Алейніка (сябра ГА «БАЖ») за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.

Вялікі раздзел справаздачы Камітэта абароны журналістаў (CPJ, Нью-Йорк) «Атакі на прэсу ў 2007 г.» прысвечаны Беларусі. У справаздачы адзначаецца, што «ўлады энергічна ўзмацнялі кантроль за Інтэрнетам…», «паставіўшы вяшчальныя СМІ па стойцы смірна, улады заняліся рэшткамі незалежных недзяржаўных друкаваных выданняў…», «на працягу года агенты КДБ і міліцыя арыштоўвалі журналістаў па сфабрыкаваных абвінавачваннях». Сярод фактаў, якія сведчаць аб пагаршэнні сітуацыі са свабодай слова ў Беларусі, аўтары адзначаюць таксама ператрусы і канфіскацыю друкаванай прадукцыі і адсутнасць прагрэсу ў расследаваннях спраў З. Завадскага і В. Чаркасавай.

27 лютага стала вядома, што беларуская недзяржаўная рэгіянальная «Газета Слонімская» і электронная газета «Ежедневник» сталі переможцамі прэміі «Свабодная прэса Усходняй Еўропы» за 2007 г., якую ўручае прадстаўнікам незалежнай прэсы фонд Эбелін і Герда Буцэрыуса (фонд «Zeit»). Цырымонія ўручэння ўзнагарод адбудзецца 19 мая.